**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 7 (723) 13 лютага 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





Полацкія майстры ствараюць са шматкоў прыгажосць.

*Працяг тэмы на стар.4*



## Расія часова ўвяла пашпартны кантроль на мяжы з Беларуссю

Як паведамляе Памежная служба ФСБ Расіі, «праверка пашпартоў у грамадзян Беларусі, якія ўязджаюць у Расію, абумоўленая ўзмоцненымі мерамі бяспекі ў перыяд правядзення Алімпіяды і Паралімпійскіх гульняў».

***nn.by***

### Віцебскі раён

# Зноў нервовыя разборкі

■ Кастусь Александровіч

**На працягу паўгода актыўна рыхтаваліся ў Віцебску да правядзення выязной дзяржаўнай нарады, прысвечанай далейшым перспектывам развіцця мадэрнізіруемых прадпрыемстваў канцэрна “Беллеспаперапрам”.**

Яна намячалася на мясцовым ААТ “Віцебскдрэў”, адным з дзевяці з галіны, якія дзяржава вырашыла зрабіць прыбытковымі і паспяховымі на замежных рынках мэблі. Яшчэ летась кіраўніцтва вобласці бадзёра абяцала А. Лукашэнку ў сярэдзіне жніўня максімум завяршыць усе намечаныя работы. У абласным цэнтры, сапраўды, на гэтым прадпрыемстве назіраўся ажыятаж, часта былі розныя камісіі, рабочыя чысцілі і драілі свае цэхі. У канцы восені там, праўда, адчуваўся дэфіцыт патрэбных кваліфікаваных кадраў і спецыялістаў. Аднак і ў канцы студзеня тры новыя заводы фармавання, шліфоўкі і ламініравання пліт не былі поўнасцю гатовы да працы. Канцэнтрацыя шкодных рэчываў там перавышае ўсе дапушчальныя нормы ў разы і А. Лукашэнка ў Віцебск не паехаў, у сваім стылі ўстроіў чарговую публічную порку падначаленым. Як маглі апраўдваліся кіраўнік вобласці, члены ўрада, дырэктар “Віцебскдрэва”, што зноў перашкодзілі смелым планам слабыя праектныя арганізацыі, нядбайныя будаўнікі і банкі, якія зацягвалі крэдытаванне прабленмнага прадпрыемства. У выніку там у халады абсталяванне не можа працаваць у аўтаматычным рэжыме, а следчыя пракуратуры атрымалі прамыя ўказанні саджаць у турму вінаватых за зрыў заданняў. Як бы ні развіваліся падзеі далей, але відавочна адно, што айчынная дзяржаўная эканоміка ўсё болей прабуксоўвае і становіцца неканкурэнтназдольнай.

### Пастаўскі раён

# Сыравінны голад

■ Станіслаў Раманчук

**Нягледзячы на велізарную дзяржпадтрымку многія гаспадаркі вобласці, як і раней, ледзь зводзяць канцы з канцамі.**

Гэта ў поўнай ступені адчулі на сабе і працаўнікі Пастаўскага малочнага завода, дзе летась пабудавалі свой новы сучасны міні-сырзавод, разлічаны на выпуск 20 тон сыроў у суткі. На заводзе разлічвалі значна павялічыць аб’ёмы вытворчасці, пашырыць рынкі збыту, бо гэта прадукцыя запатрабавана і высокадаходная, у адрозненне ад цэльнамалочнай. Аднак па раёне зімой пайшлі чуткі, што прадпрыемства можа зусім спыніць выпуск свайго смачнога малака, масла і кефіру. Прыйшлося дырэктару завода Валянціну Пылінскаму публічна супакоіць насельніцтва, хоць ён не хаваў праблему катастрафічнага недахопу сыравіны для нармальнай дзейнасці. Для поўнай загрузкі вытворчасці штодзень патрабуецца завадчанам мець да 250 тон малака, а яго ў лютым паступае крыху болей 90 тон. Нават летась сыравіны было болей 100 тон у суткі. Аднак у гэтым годзе надоі на фермах знізіліся ўжо ў 11 мясцовых калгасаў, а ў “Блакітных азёрах-агра” і “Андронах” яны ледзьве перавышаюць 1 літр на карову. У большасці гаспадарак жывёлагадоўля ў заняпадзе, нізкая таварнасць, падзяжы і высокая ялавасць статку на фермах. У выніку завод істотна скараціў пастаўкі малочнай прадукцыі спажыўцам у сталіцы, Мінскай вобласці і ў аршанскую зону. Тут будзе неўзабаве спынены выпуск тварагу, бо і абсталяванне састарэла. Прыйшлося закансерваваць і стары цэх па выпуску паўцвёрдых сыроў. Пакуль і паловы свайго асартыменту сыроў не выпускае новая вытворчасць. Праўда, з надыходам вясны тут адновяць выпуск плаўленых сыркоў, але сітуацыя з сыравіннай базай усё роўна вельмі трывожная.

### Гарадоцкі раён

# Бяспека працы пад пагрозай

■ Чэслаў Якубовіч

**Па існуючай у нас традыцыі ў пачатку восені пастараюцца ў Гарадку здзівіць пераменамі і ўтульнасцю шматлікіх гасцей чарговага рэспубліканскага фестывалю працаўнікоў вёскі “Дажынкі-2014”.**

Праўда, вялізны аб’ём работ па добраўпарадкаванні райцэнтра будзе праведзены ў сціслыя тэрміны, у нервовай абстаноўцы спешкі і аўралу. Між тым ужо зараз спецыялістаў абласных упраўленняў Дэпартамента дзяржінспекцыі працы і Дзяржпрамнагляду непакоіць, што можа быць дапушчаны там рост выпадкаў вытворчага траўматызму. Летась толькі пачыналі рыхтавацца да хлебаробскага свята, а на Віцебшчыне рэзка на 85 % вырасла колькасць загінуўшых на вытворчасці. У мінулым годзе ў вобласці пайшлі на працу і загінулі 26 чалавек і яшчэ 81 работнік атрымаў цяжкія траўмы. Будаўнічая галіна ж займае сумніўнае лідарства: на розных аб’ектах у 2013 годзе знайшлі сваю пагібель 5 будаўнікоў, а 18 засталіся калекамі. Сёлета толькі ў Гарадку неабходна хутка правесці капітальны рамонт 82 будынкаў, добраўпарадкаваць 65 вуліц і пойму ракі Гаражанка, правесці рэканструкцыю цэнтральнай плошчы, 13 магазінаў і рэстарана. Сюды з'едуцца тысячы людзей, і паспрабуй паўсюдна забяспечыць нармальную арганізацыю работ для бяспечнай працы, належную эксплуатацыю грузапад’ёмных механізмаў і агрэгатаў, калі тэрміны падганяюць. Дарэчы, толькі летась спецыялісты забаранілі эксплуатацыю 106 розных адзінак тэхнікі і механізмаў з-за выяўленых яе дэфектаў па ахове працы.

# Аб самым надзённым

## У ЧАРГОВАГА БЕЛАРУСКА-КІТАЙСКАГА АЎТАМАБІЛЬНАГА ПРАЕКТА ПЕРСПЕКТЫВЫ НЕ НАДТА АПТЫМІСТЫЧНЫЯ

auto.onliner.by

■ Аляксандр Цішкевіч

**А пакуль засведчым, што летась продаж нашых аўто, вырабленых сумесна з кітайцамі, ішоў вяла. За год іх пад Барысавам выпусцілі каля 2,5 тысяч штук, прадалі меней паўтысячы. Астатнія легкавушкі, па дадзеных Белстата, у снежні знаходзіліся на складах завода. Вось так пакуль жыве гэты аўтамабільны праект.**

Апошнім часам мяне, як і многіх іншых суайчыннікаў, не пакідае адчуванне таго, што ўсе амбіцыйныя праекты, за якія бярэцца наша кіраўніцтва, з трэскам чамусьці праваьваюцца. Пра мінулы год і казаць няма чаго: большасць прагнозных паказчыкаў 2013 года аказаліся нявыкананымі. Адны выяўленыя шматлікія хібы падчас мадэрнізацыі дрэваапрацоўкі чаго вартыя. Як прызнаў сам А. Лукашэнка, з-за калійных і нафтавых супярэчнасцей са сваім галоўным саюзнікам летась Беларусь страціла сама меней 1,5 – 1,7 мільярды долараў.

Рэдка радуюць і абласканыя дзяржавай беларускія спартсмены, як адзначалася на нядаўняй выніковай калегіі Мінспорту і турызму РБ. Пры гэтым у нас у 2012 годзе з дзяржбюджэту фінансавалася развіццё 72-х відаў спорту, а летась іх скарацілі да 47, сэканомілі каля 17 млрд. рублёў у ходзе пачатай рэарганізацыі галіны. Наша краіна можа страціць неўзабаве і тытул быццам спартыўнай нацыі, бо зімовыя Алімпійскія гульні ў Сочы стануць, па прызнанні спартыўнага міністра А. Шамко, апошнімі ў кар’еры многіх вядучых айчынных атлетаў, за якімі няма надзейнай змены.

Фактычна завяршыўся, як прызнаў на сустрэчы з рэдактарамі беларускіх СМІ кіраўнік дзяржавы, і перыяд эканамічнага “цуда”, калі эканоміка штогод прыбаўляла, як і кітайская, 9,8- 11 % прыросту ВУП. Дарэчы, на кітайцаў у афіцыйнага Мінска асаблівыя спадзяванні развіваць супрацоўніцтва. Прадстаўнікі далёкай Паднябеснай краіны ў Беларусі рэалізуюць шэраг праектаў, але б не былі хітрымі азіятамі, найперш за кошт сваіх крэдытаў, якія трэба вяртаць з цягам часу. Не спяшаецца Кітай, што тут зробіш, укладваць у беларускую эканоміку прамыя замежныя інвестыцыі.

Кіраўнік урада РБ М. Мясніковіч кітайскім журналістам нават заўважыў, беларусам паступіла каля 50 млрд. USD такіх інвестыцый з розных краін свету, але пры гэтым з багатага Кітая – толькі 195 мільёнаў. Праўда, ёсць адзінае выключэнне: сумесны вытворчы праект “БелДжы” па зборцы ў нас кітайскіх легкавых аўтамабіляў. Па значнасці зараз стаўка на кітайскія аўто кіраўніцтвам краіны прыраўнана да праекта ўзвядзення Беларускай АЭС.

Адпаведны мемарандум аб супрацоўніцтве ў рэжыме прамысловай зборкі аўтамабіляў быў падпісаны 3 з паловай гады назад. Сёлета па прэзідэнцкім Указе № 35 вырашана ў сярэдзіне 2019 года мець у Барысаўскім раёне нават новы аўтамабільны завод “БелДжы” поўнага тэхналагічнага цыклу, разлічаны на выпуск 120 тысяч такіх легкавушак штогод. На паперы, на першы погляд, усё намалявана прыгожа, бо ў раёне вёскі Перасады павінны з’явіцца рабатызаваныя зварачны, зборачны і цэх фарбавання машын нават да канца 2015 года. Крыху пазней там запланаваны і сучасны кузаштамповачны цэх.

Аднак штосьці слаба ў гэта верыцца, бо з самага пачатку гэты праект ажыццяўляецца з істотным адставаннем ад графіку. І калі яшчэ заводскія карпусы могуць пабудаваць, то вось з рэалізацыяй гатовай тэхнікі ўжо існуюць цяжкасці. Наш айчынны рынак проста не пераварыць такую колькасць аўто, бо не будзе попыту і на 50 тысяч кітайскіх легкавушак сярод беларусаў. Разлікі на тое, што гэтыя машыны будуць набываць у асноўным у Расіі, таксама занадта аптымістычныя. Да прыкладу, летась увогуле продажы аўто такога класу ў РФ скараціліся на 5,5 %, хоць і склалі 2,8 млн. штук.

Не будзем забываць, што на расійскіх прасторах ужо цяпер існуе каля 30 падобных вытворчасцей аўто па зборцы не толькі абноўленых расійскіх “Лад”, але і карэйскіх, нямецкіх, французскіх, японскіх легкавушак і заводаў чэшска-нямецкай “Шкоды”. Думаеце там будуць рады з’яўленню яшчэ і кітайска-беларуская канкурэнта? Як бы не так. Расійскі пасол А. Сурыкаў прама заявіў, што расіяне не дадуць разбурыць сваё аўтамабілебудаванне і па гэтым пытанні павінны быць сур’ёзныя перамовы.

А пакуль засведчым, што летась продаж нашых аўто, вырабленых сумесна з кітайцамі, ішоў вяла. За год іх пад Барысавам выпусцілі каля 2,5 тысяч штук, прадалі меней паўтысячы (у Беларусі 461 машыну ў студзені-лістападзе).

Астатнія легкавушкі, па дадзеных Белстата, у снежні знаходзіліся на складах завода. Вось так пакуль жыве гэты аўтамабільны праект. Пры такіх сціплых аб’ёмах аўчынка, як кажуць, апрацоўкі не варта. Вазіць з Кітая гатовыя машынакамплекты для зборкі ў нас далёка, машына будзе дарагая і беларусы не такія багатыя, каб купляць кітайскія аўто за 12-13 тысяч у. а. Дарэчы, у недалёкім мінулым у нас ужо выпускалі “Форды”, потым польскія фургоны-грузавічкі, іранскія “скакуноў”. Развіццё гэтыя аўтапраекты на беларускай зямлі не атрымалі, пакуль у густым тумане і далейшы лёс легкавушак Gelly, вырабленых на Міншчыне.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 13.02.14 | | | | Пятніца 14.02.14 | | | | Субота 15.02.14 | | | | Нядзеля 16.02.14 | | | | Пн.17.02.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | 0 | -1 | +1 | 0 | 0 | 0 | +2 | +1 | 0 | 0 | +2 | 0 | +2 | +1 | +4 | +3 | +2 | +1 | +3 |
| Ціск | 744 | 742 | 740 | 740 | 740 | 741 | 740 | 742 | 742 | 743 | 743 | 743 | 742 | 740 | 738 | 739 | 739 | 739 | 739 |
| Вільготнасць | 99 | 100 | 96 | 97 | 97 | 100 | 95 | 94 | 96 | 100 | 88 | 85 | 85 | 99 | 96 | 93 | 90 | 95 | 71 |
| Вецер м/сек | 1 В | 3 С-В | 3 С-В | 1 В | 1 З | 2 С | 1 В | 1 В | 1 Ю | 2 Ю-З | 3 Ю-З | 4 Ю | 5 Ю | 5 Ю | 3 Ю-З | 4 Ю-З | 5 Ю-З | 5 З | 5 З |

## Дзень за днём

**Кіраўніцтва Беларусі загаварыла аб стварэнні вядучай праўладнай партыі ў цяперашні складаны перыяд, калі прыбавілася праблем у эканоміцы. Валютныя паступленні ў краіну летась зменшыліся на 6,6 млрд. USD. Амаль 10 % працуючых у Беларусі зарабляюць меней 2 млн. рублёў у месяц. Долар перавысіў рубеж 9600 рублёў. На абслугоўванне свайго знешняга доўгу ўраду РБ сёлета трэба знайсці 3,6 мільярда долараў. Кожны беларус летась віпіў 48 бутэлек гарэлкі, сёлета для айчынных курыльшчыкаў зноў у другі раз падаражэлі цыгарэты. На складах засталося непрададзеных сувеніраў на 9 мільярдаў з сімволікай чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску.**

# Важнейшыя навіны свету

**Егіпет.** Часовы ўрад краіны вырашыў перанесці правядзенне прэзідэнцкіх выбараў з восені на красавік, раней парламенцкіх, іх галоўны фаварыт - генерал Абдэль ас-Сісі.

**Польшча.** Прэм'ер-міністр Дональд Туск заявіў аб далейшай падтрымцы палякамі еўрапейскага выбару Украіны, але адзінства гэтай дзяржавы пад пагрозай з-за яе ўрада.

**Расія.** Прэзідэнт У. Пуцін паабяцаў працаваць і з новым урадам Украіны, хто б ім не кіраваў, выканаць усе ранейшыя дамоўленасці па крэдыце на 15 мільярдаў долараў і па цэнах на газ.

**Украіна.** У адказ на падзеі на Еўрамайдане Расія пачала зноў татальную гандлёвую вайну супраць краіны, на граніцы сталі рускія дэталёва правяраць усю ўкраінскую прадукцыю.

**Літва.** Ветэрынарная служба зафіксавала на тэрыторыі краіны першы выпадак афрыканскай чумы свіней, якая перакінулася з Беларусі, адгарадзіцца ад АЧС не выйшла.

**Расія.** Адразу 10 пагранічнікаў Сахалінскага ўпраўлення ФСБ вечарам утапіліся ля вострава Кунашыр на Курылах, дзе перавярнулася іх службовая гумавая лодка.

**КНДР.** Вышэйшы кіраўнік самай закрытай краіны свету Кім Чэн Ын загадаў услед за дзядзькам Чан Сон Тхэнам пакараць смерцю ўсіх яго родных, уключаючы дзяцей.

**Канада.** Раніцай у правінцыі Квебек у моцны мароз поўнасцю згарэў дом для 60 прэстарэлых, з іх тры загінулі ў агні, прапалі без звестак яшчэ 30 чалавек.

**Польшча.** Урад краіны з новага бюджэту дапамогі ЕС на 2014-2020 гады ў суме 85,5 млрд. еўра накіраваў 32 млрд. на развіццё і абнаўленне інфраструктуры польскай вёскі.

**Расія.** Каб спыніць далейшае падзенне курсу рубля, Нацбанк РФ за адзін дзень патраціў на валютных таргах больш 1 млрд. долараў, у абменніках рэзка вырас попыт на валюту.

**Ганконг.** Адзін з алігархаў краіны, мільярдэр Чао Цзэ Чунга паабяцаў выплаціць 120 млн. USD таму дастойнаму мужчыне, хто пераканае яго дачкулесбіянку выйсці замуж.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск параўнаў Інтэрнет з Божым дарам і праяўленнем сапраўднай дабрыні, сацыяльныя сеткі даюць бязмежныя магчымасці для адзінства.

**Францыя.** Пасля скандальных публікацый у СМІ прэзідэнт Франсуа Алланд разышоўся са сваёй грамадзянскай жонкай, першай ледзі краіны Валеры Трыервейлер.

**Японія.** Спецыялісты распрацавалі незвычайны ліфчык з сенсарнымі датчыкамі, які аўтаматычна расшпільваецца, калі жанчына адчувае пачуццё сапраўднага кахання.

**Фінляндыя.** Шэраг буйных фінскіх СМІ адмовіліся ехаць у Беларусь на чэмпіянат свету па хакеі з-за патрабаванняў яго ўрада не расказваць пра іншыя беларускія падзеі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Па закрытай працэдуры конкурсная камісія прызнала лепшымі прапановы расійскай "Валмы", а не нямецкай кампаніі "Кnauf" па пакупцы завода "БелГІПС".

**Магілёў.** Абласная пракуратура распачала крымінальную справу супраць аднаго з намеснікаў старшыні райвыканкама, ён загадаў падначаленым скрыць факт свайго ўдзелу ў ДТЗ.

**Гродна.** Першай жанчынай у Беларусі, якая заняла высокую пасаду намесніка старшыні аблвыканкама стала ўраджэнка Горак, выпускніца БСГА 35-гадовая Алена Агей.

**Буда-Кашалёва**. За гібель мільёна галоў бройлераў, якіх не ўдалося прадаць, пракуратура распачала крымінальную справу супраць былога дырэктара мясцовай птушкафабрыкі.

**Дзятлава.** З-за злому рэльсы перакуліліся 3 грузавыя вагоны з-пад калію і яшчэ 27 сышлі з рэек на перагоне на Ліду-Баранавічы, затрымаўся рух двух пасажырскіх цягнікоў.

**Барысаў.** Адзін з багацейшых людзей краіны грэк Павел Тапузідзіс адкрыў у горадзе свой сёмы ў РБ буйны гандлёвы комплекс "Карона" гандлёвай плошчай 6 тысяч квадратных метраў.

**Брузгі.** Чэргі на граніцы з Польшчай з вялікагрузных машын расцягнуліся ў халады на дзясяткі км, фур там сабралася на пагранпераходзе ў 2 разы болей, чым у найгоршыя гады.

**Кобрын.** Улады перадалі фірме з Чэхіі "ЭнергаЭкаІмпекс" у арэнду 1200 га няўдобіц для вырошчвання ў прамысловых маштабах лазы для перапрацоўкі яе на паліва пелеты-1.

**Шклоў.** Былога ўрачанеўрапатолага з мясцовай райбальніцы, які пакутаваў алкагольнай залежнасцю, суд пакараў 4,5 гадамі турмы за атрыманне хабару ад сваіх пацыентаў.

**Рагачоў.** У выніку аварыі на вадаправодзе большая частка горада засталася зноў без падачы гарачай і халоднай вады, летась у лістападзе тут ужо перажылі падобнае здарэнне.

**Ждановічы.** Паблізе сталіцы засталося ўсяго 338 свабодных зямельных участкаў, чарга з жадаючых іх атрымаць у Мінскім раёне перавысіла ўжо 21,5 тысячу чалавек.

**Чэрвень.** У вёсцы Ведрыца ў жылым доме ўзарваўся ацяпляльны кацёл на цвёрдым паліве, людзі не пацярпелі, але вымушаны былі часова пераехаць жыць да родных у райцэнтры.

**Жлобін.** Вечарам у вёсцы Чырвоны Бераг з-за парушэння правіл эксплуатацыі газавай пліты і выбуху газавага балона ўзнік пажар, які забраў жыцці трох жанчын.

**Слуцк.** На ахвяраванні жыхароў і з бюджэту раёна набылі ў калекцыянера з Мінску і прывезлі ў мясцовы краязнаўчы музей знакаміты слуцкі пояс – шэдэўр мастацтва.

**Мінск.** Грошы на спорт у Беларусі, як заявіла шэф-рэдактар "Народнай Волі" Святлана Калінкіна, трацяцца ўпустую, дасягненняў няма, той жа айчынны хакей – мыльны пузыр.

# У Беларусі зняты карантын па афрыканскай чуме свіней



■ Аляксандр Ярашэвіч, БелаПАН

**У Беларусі зняты карантын па афрыканскай чуме свіней (АЧС), паведаміў БелаПАН дырэктар дзяржустановы «Беларускі дзяржаўны ветэрынарны цэнтр» Аляксандр Аксёнаў. У той жа час, падкрэсліў ён, працягвае дзейнічаць забарона на ўтрыманне свіней на прыватных дапаможных гаспадарках у пяцікіламетровай зоне ад свінакомплексаў.**

Забарона будзе дзейнічаць прынамсі тры гады з моманту выяўлення ачагу афрыканскай чумы.

У наш час вядзецца праца па біялагічнай абароне комплексаў і адсочванні прадукцыі, якая завозіцца ў Беларусь з Расійскай Федэрацыі, уключаючы кармы, а таксама праца з насельніцтвам, якое трымае жывёл. Акрамя таго, праводзіцца маніторынг сітуацыі ў свінагадоўчых комплексах, мясакамбінатах, сярод дзікіх і хатніх жывёл.

Казаць пра поўную ліквідацыю афрыканскай чумы ў Беларусі пакуль не даводзіцца, адзначаюць навукоўцы. Як растлумачыў БелаПАН дырэктар РУП «Інстытут эксперыментальнай ветэрынарыі ім. С.Н.Вышелесского» Анатоль Гусеў, па існуючых стандартах краіна лічыцца добранадзейнай па сканчэнні трох гадоў пасля апошняга выпадку захворвання на афрыканскую чуму.

«Каб ліквідаваць АЧС, трэба тры гады весці маніторынгавыя даследаванні і даказаць, што ў нас нідзе няма выбліску захворвання жывёл, якія перахварэлі, але пакінулі антыцелы. Казаць пра поўную ліквідацыю пакуль няправільна. Мы можам казаць толькі пра тое, што ў нас у наш час афрыканская чума не рэгіструецца», - падкрэсліў Гусеў.

Нагадаем, першая інфармацыя пра ачагі афрыканскай чумы ў Беларусі з'явілася ў канцы чэрвеня 2013 года. Да канца жніўня ў краіне афіцыйна было зафіксавана два ачагі захворвання - у Іўеўскім раёне Гродзенскай вобласці і Віцебскім раёне. Па афіцыйнай версіі чыннікам захворвання стаў заражаны камбікорм для свіней, які быў пастаўлены прадпрымальнікам з-за меж Беларусі і рэалізаваны насельніцтву.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Найгоршая сітуацыя ў Беларусі, як заявіў прэм'ер-міністр М. Мясніковіч, у АПК Віцебшчыны, рэнтабельнасць галіны з 2012 года знізілася ў 3 разы, рост даўгоў на 64 %.

**Орша.** Дзяржаўны кантроль высветліў, што летась мясцовая льнонасенстанцыя за валюту набыла 70 тон насення, калі на Віцебшчыне ўжо паўсюдна завяршылі сяўбу даўгунцу.

**Верхнядзвінск.** У ліку 20 айчынных прадпрыемстваў мясцовы масласырзавод упершыню прадставіў свае вырабы "Ян Сыяроб" на міжнароднай выставе харчавання ў Берліне.

**Мёры.** Калектыў райбальніцы засмуціла, што 25-гадовы доўгабуд – новую клініку межраёнага ўзроўню плануюць пабудаваць і ўвесці ў эксплуатацыю толькі ў 2015 годзе.

**Віцебск.** Мясцовы тэлезавод "Віцязь" з гіганцкімі стратамі летась у суме 72,1 млрд. рублёў увайшоў у тройку самых праблемных прадпрыемстваў краіны.

**Наваполацк.** У аднасінах да мясцовага камп'ютарнага злодзея распачалі адразу 9 крымінальных спраў, ён счытваў даныя банкаўскіх картак грамадзян і скраў больш 35 млн

**Глыбокае.** На адным са старэйшых льнозаводаў Беларусі – ААТ "Мосарлён" кіраўніцтва ВА "Белаграсервіс" вырашыла з цягам часу стварыць музей беларускага лёну.

**Пастаўы.** Каля 8-мі гадзін вечара загарэўся жылы дом у цэнтры горада, атравіліся дымам і загінулі маладыя п'яніцы мужчына з жанчынай, агонь забраў 4 жыцці з пачатку года.

**Чашнікі.** Пракуратура аштрафавала жыхарку раёна на больш чым 360 тысяч рублёў за 3 заведама ілжывыя выклікі міліцыі на дапамогу, якая нікому не была патрэбнай.

**Орша.** На тэрыторыі раёна на выбарах 23 сакавіка будуць працаваць найболей у вобласці - 104 участковыя выбарчыя камісіі, калі ў суседнім Дубровенскім раёне - толькі 20.

**Браслаў.** У азёрным краі вяскоўцы трымаюць 2489 кароў, найбольш у вобласці, рагуль на панадворках Віцебшчыны засталося меней 23 тысяч, на ўсходзе іх мала хто ўжо гадуе.

**Верхнядзвінск.** Услед за адкрыццём у аграгарадку Валынцы новым магазінам і адрамантаваным Домам культуры ў былой яўрэйскай школе хутка паўстане царква.

**Мёры.** Міністэрства абароны Беларусі праводзіць ў раённым цэнтры раптоўную праверку часцей "тэрытарыяльнай абароны", з запасу былі мабілізаваны да ста былых салдат, афіцэраў.

**Полацк.** У музеі архітэктуры Сафійскага сабора сталі праводзіць на беларускай, рускай альбо англійскай мовах экскурсіі для жадаючых з аўдыёгідам і планам храма.

**Гарадок.** На новую лыжаролерную трасу і трэніровачны біятлонны цэнтр са стрэльбішчам для зборнай Беларусі выдзелілі, рыхтуючыся да "Дажынак-2014", 127мільярдаў рублёў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Полацкія майстры ствараюць са шматкоў прыгажосць

**У сераду, 5 лютага, у выставачнай зале гарадскога Цэнтра культуры ў Глыбокім адкрылася выстава «Лоскутные родники».**

**На ёй прадстаўлены работы ўдзельніц клуба шматковага жыцця “Рошва” з Полацка. На выставе клуб прадстаўлялі яго кіраўнік Ніна Ярмух, а таксама сябры клуба Ганна Панюшкіна і Валянціна Мамошына.**

■ **Зміцер Лупач,**
*тэкст і фота.*

На адкрыццё выставы сабралася каля трох дзясяткаў глыбачан. Наведвальнікі ўбачылі працы майстроў клуба, пазнаёміліся з яго гісторыяй, атрымалі незабыўныя ўражанні ад работ полацкіх рукадзельніц. Ніна Ярмух распавяла глыбачанам пра гісторыю стварэння знакамітага “Полацкага абярэгу”.

Клуб “Рошва” быў заснаваны пры Полацкім Цэнтры рамёстваў і нацыянальных культур у 2004 годзе. Удзел у міжнародных конкурсах шкуматковага шыцця ў 2006 і 2007 гадах у Маскве прынёс клубу вядомасць. Работы майстроў клуба былі адзначаны спецыяльнымі прызамі і дыпломамі.

Клуб «Рошва» існуе пры полацкім ЦРНК з 2004 года. За гэты дастаткова невялікі прамежак часу ён паспеў не толькі сабраць вялікае кола сяброў, але і заваяваць званне народнага калектыву, што ўжо само па сабе – паказчык арганізаванасці і стабільнасці яго работы. Клуб паспеў правесці выставы ў Полацку, Ушачах, Гарадку, Віцебску, Мінску, у некаторых гарадах – па некалькі разоў.

Удзел у міжнародных конкурсах шматковага шыцця ў Маскве ў 2006 (тэма «Квітнеючая мара») і 2007 (тэма «Ля краю вады») гадах прынёс клубу вядомасць. Работы сяброў «Рошвы» занялі другое і трэцяе месца на конкурсе ў 2006 годзе і былі адзначаны спецыяльным прызам і дыпломам ў 2007. Зараз выставы клуба прайшлі ў шмат якіх гарадах нашай краіны і за яе межамі.

Пасля прадстаўлення работ удзельнікаў клуба глыбачане змаглі задаць пытанні полацкім майстрам. Пытанняў было шмат, што сведчыла пра неабыякавасць глыбачан да ўбачанай прыгажосці. Ніна Ярмух распавяла, што зараз курсы шматковага шыцця працягваюцца тры гады, што гэта справа патрабуе вялікай уседлівасці і, вядома ж, таленту. Але ж у выніку атрымліваецца мастацкі твор, у які ўкладзеная, па словах майстрыцы, уся гама пачуццяў.

Гасцям з Полацку задалі пытанне і пра тое, ці рыхтуюць яны папярэднія эскізы. Спадарыня Ніна распавяла, што так, рыхтуюць, без эскіза, прычым выкананага ў колеры, ніяк не абысціся. Але праблема якраз у тым, што з сябраў клуба ніхто сам не малюе, у іх ёсць толькі адзін прафесійны мастак, які ім у гэтым дапамагае. Бо ўдзельнікі клуба зусім не прафесійныя дзеячы мастацтва, а медыкі, аптэкары, настаўнікі, якія прысвячаюць вольны ад працы час любімай справе.

Таксама гасцей выставы цікавіла пытанне, ці цяжка майстрам раставацца са сваімі працамі ў выпадку, калі іх хто хоча набыць. Майстрыцы адказалі, што бывае па-рознаму, але, калі гэта праца прыносіць радасць іншым людзям, то чаму б не. Быў узгаданы выпадак з мінулага году, калі коўдру купілі яшчэ не дашытай. Майстрам заплацілі наперад за працу, толькі каб яны яе не прадалі каму-небудзь іншаму. Цікава, што пакупнікі былі не з замежжа, не са сталічнага Мінску, а з маленькага райцэнтра Сянно. Радуе тое, што і нашы людзі пачынаюць цікавіцца не толькі танным шырпатрэбам, але і ручнымі працамі майстроў.

Што ж датычыць наогул геаграфіі распаўсюду работ клуба, то яна даволі шырокая. Акрамя Беларусі, працы рукадзельніцёсць у Аргенціне, Расіі, Даніі, Германіі, Японіі… А вось прадугадаць, што будзе карыстацца найбольшым попытам на той ці іншай выставе, як сцвярджаюць сябры клуба, амаль немагчыма. На кожнай канкрэтнай імпрэзе попыт можа быць самы розны.

Асабліва глыбачан зацікавіла гісторыя стварэння “Полацкага абярэга”. Вышывальшчыцы распавялі пра тое, як стваралася гэта ўнікальнае пано-абярэг. Адбылося гэта ў 2007 годзе і было прымеркавана да 1145-годдзя Полацка. Спачатку на ідэю Ніны Ярмух ніхто не адклікнуўся. Ішоў час, работ не было, і яна сама вырашыла для абярэга пашыць 10 работ памерам 45 на 45 см. Спачатку яе ідэю падтрымалі ўдзельнікі курсаў шыцця, потым прыйшла пасылка з Калінкавіч. Пра гэту ідэю напісалі газеты. Паказала сюжэт тэлебачанне. І гэта спрацавала.





Працы сталі прысылаць з усіх куткоў Беларусі, пайшлі працы з Расіі, Прыбалтыкі, Германіі, Малдовы, нават з далёкай Аргенціны. Ну, вядома ж, самы актыўны ўдзел прынялі жыхары Полацка. Перад святам майстрыцы ўжо самі не спраўляліся толькі сшываць гатовыя работы. Шмат хто з палачанаў і гасцей ім дапамагаў у гэтым. Справа была завершана толькі за некалькі гадзін да адкрыцця юбілею.

І тут як назло пайшоў дождж. А на дажджы такую працу не вывесіш! Але, як сцвярджаюць майстры, тут ужо дапамог хіба сам абярэг, у Полацку дождж спыніўся, і людзі змаглі палюбавацца палатном. Палатно складаецца з невялікіх работ, памерам 45х45 см, якія выкананыя ў розных тэхніках, у асноўным, гэта шматковае шыццё. Вось так добрая ідэя змагла аб’яднаць людзей з розных куточкаў свету.

**Напрыканцы хацелася б прапанаваць глыбачанам таксама прыдумаць нейкую добрую ідэю перад юбілеем горада, якая б змагла аб’яднаць усіх, каму неабыякавае наша Глыбокае.** Час пакуль ёсць, таму, калі ласка, прапануйце свае ідэі. Мы ж таксама не горшыя за палачан!

# У Германіі збіраюць 1 млн. еўра на будаўніцтва мемарыяла ў былым лагеры смерці Трасцянец

**Дортмундскі міжнародны адукацыйны цэнтр (МАЦ) збірае 1 млн. еўра на будаўніцтва мемарыяльнага комплексу на месцы былога лагера смерці Трасцянец, паведаміў на прэс-канферэнцыі 10 лютага ў Мінску дырэктар Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра імя Йаханеса Рау Віктар Балакіраў.**

Паводле яго слоў, першыя ахвяраванні па 25 тыс. еўра паступілі ад гарадскіх адміністрацый Берліна, Кёльна, Дзюсельдорфа, Гамбурга, Брэмена і Франкфурта-на-Майне. Менавіта з гэтых гарадоў у 1941—42 гадах у лагер смерці Трасцянец былі дэпартаваныя тысячы людзей. У сваю чаргу нямецкі фонд «Бітэ» абавязаўся падвоіць суму, якую збяруць гарады. Такім чынам, на рахунку цэнтра ўжо 300 тыс. еўра.

Яшчэ 200 тыс. еўра, адзначыў Балакіраў, гатовы перадаць Народны саюз Германіі па доглядзе ваенных пахаванняў. Дортмундскі МАЦ плануе папрасіць Міністэрства замежных спраў ФРГ выдзеліць астатнюю суму ў 500 тыс. еўра.

Дырэктар Мінскага МАЦ падкрэсліў, што нямецкі бок мае намер узяць удзел у фінансаванні менавіта сумеснага праекта мемарыяльнага комплексу на месцы былога лагера смерці Трасцянец. Справа ў тым, што існуюць два незалежныя праекты мемарыялізацыі тэрыторыі гэтага гістарычнага месца. Першы, распрацаваны УП «Мінскпраект», прадугледжвае стварэнне комплексу непасрэдна на тэрыторыі былога лагера смерці. Другі распрацаваны старшынёй яўрэйскіх арганізацый і абшчын Беларусі, членам міжнароднай акадэміі архітэктараў Леанідам Левіным і прадугледжвае стварэнне мемарыяла ва ўрочышчы Благоўшчына блізу Трасцянца.

Згодна з гэтым праектам, мемарыял у Благоўшчыне пачынаецца са стаянкі для легкавога транспарту і аўтобусаў. Далей плануецца ўладкаваць круглую пляцоўку белага колеру, на якой адзіным архітэктурным рашэннем будзе памятны комплекс у выглядзе пакінутых чамаданаў.

За пляцоўкай размесціцца алея, дарога скрозь якую будзе пафарбаваная ў чырвоны колер. Гэтая дарога пройдзе скрозь шэраг стылізаваных чыгуначных вагонаў, унутры якіх будуць выграваваныя імёны ахвяр лагера смерці. Алея завершыцца вялікай пляцоўкай няправільнай, вугластай формы. Гэтая тэрыторыя павінны сімвалізаваць парадаксальнасць і ненатуральнасць вайны, таму на ёй будзе мноства перакуленых аб'ектаў, напрыклад дрэва, што расце каранямі ўверх, або перакулены на дах дом.

Далей плануецца стварыць яшчэ адзін участак алеі, які прывядзе наведвальнікаў да яшчэ адной круглай пляцоўкі. У адрозненне ад першай яна будзе чорнага колеру і абсалютна пустая, бо будзе сімвалізаваць бездань.

*Захар Шчарбакоў, БелаПАН.*

# У Год гасціннасці ў Беларусі пройдзе акцыя «Павярніся тварам да турыста»

**У 2014 годзе, абвешчаным Годам гасціннасці, у Беларусі пройдзе акцыя «Павярніся тварам да турыста», паведаміў намеснік міністра спорту і турызму Чэслаў Шульга на прэс-канферэнцыі ў Мінску 10 лютага.**

Паводле яго слоў, у межах акцыі за кошт дзяржавы плануецца павысіць кваліфікацыю 70% работнікаў сферы турыстычных паслуг — гідаў-перакладчыкаў, экскурсаводаў, вадзіцеляў, персаналу аб'ектаў прыдарожнага сэрвісу.

«Мы надаем увагу замежнай адукацыі. Ёсць дамоўленасць з італьянскімі, турэцкімі, літоўскімі калегамі, якія на кароткі тэрмін прымуць нашых спецыялістаў і пакажуць, як гэта робіцца ў іх, якой павінна быць якасць паслуг і як трэба арганізаваць працэс, каб ён адпавядаў сучасным патрабаванням», — сказаў Шульга.

У Ізраілі ў пачатку развіцця сельскага турызму самай складанай задачай спецыялісты называлі растлумачэнне мясцовым жыхарам выгады, якую яны могуць атрымаць ад з'яўлення турыстаў у іх мясцовасці, адзначыў Шульга. «Мы хочам пазычыць гэты вопыт і праз рэкламу, тэлепраграмы растлумачыць, што турыст — гэта ў большай ступені карысць, чым чалавек, які нясе нейкія нязручнасці», — падкрэсліў ён.

Намеснік міністра нагадаў, што такія акцыі праводзіліся ў Беларусі і раней.

*Анастасія Салановіч, БелаПАН.*

**450 год назад, 26 студзеня 1564 года, адбылася Ульская бітва. Гэта была другая, пасля Оршы, па значэнні перамога войска Вялікага Княства Літоўскага ў змаганні з Масквой у XVI стагоддзі.**

# «І з тых часоў сядзеў маскаль ціха…»

**Андрэй Янушкевіч** — *гісторык, кандыдат гістарычных навук. Аўтар кнігі «Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1558-1570 гг.»*

Нагадаем, як развіваліся падзеі. Ішла ў самым разгары Інфлянцкая вайна. Ад 1562, пасля сканчэння перамір'я, распачаліся ваенныя дзеянні па ўсёй лініі мяжы паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. 15 лютага 1563 пасля маштабнай аблогавай аперацыі маскоўцам здаўся Полацк. Захоп значнага кавалка тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага адразу перахіліў баланс сіл у вайне на карысць маскоўцаў. Літвіны[1] мусілі пайсці на ганебныя перамовы, каб спыніць экспансію і як след падрыхтавацца да адпору непрыяцеля. У снежні 1563 г. – студзені 1564 у Маскве знаходзілася літоўскае пасольства на чале з Юрыем Хадкевічам. Дамовіцца, аднак, аб перамір'і на прымальных умовах яму не ўдалося. У Маскве не хацелі ісці на саступкі, выхваляючыся сваім поспехам пад Полацкам і пагражаючы новым ударам па беларускіх землях ВКЛ.

І сапраўды, паралельна з дыпламатычнымі перамовамі маскоўскае войска рыхтавалася да новай выправы. У Смаленску шыкавалася вялізнае войска на чале з Васілём Сярэбраным. Другая групоўка павінна была выйсці з Полацка. Яе ўзначальваў новапрызначаны полацкі ваявода Пётр Шуйскі і налічвала яна, па свежых падліках расійскага даследчыка В. Пенскога, каля пяці тысяч вайскоўцаў.

Для Вялікага Княства наступіў «момант ісціны». Калі страту Полацка можна было спісаць на нечаканасць нападзення і непадрыхтаванасць да яго ў зімовы час, то паўтарэнне падобных падзей праз год азначала б элементарную няздольнасць дзяржавы абараніць свае землі пад магутным напорам праціўніка. Таму літвіны рыхтаваліся як маглі да любога павароту падзей.

У Лукомлі стаяла малалікае войска пад камандай гетманаў Мікалая Радзівіла Рудога і Рыгора Хадкевіча. Яно складалася з некалькіх ротаў найманых жаўнераў і кволага паспалітага рушання, якое не прывыкла збірацца ўзімку. Гетманы мелі пад рукой тысячы паўтары баяздольных жаўнераў.

Добра папрацавала выведка, паведаміўшы, што недалёка знаходзіцца маскоўскае войска. Гетманы рушылі наперад, у Чашніках атрымалі звестку, што роты на чале з Рыгорам Бакам і Баркулабам Корсакам уступілі ў бой з маскоўскім авангардам. Асноўнае маскоўскае войска было непадалёк.

Супярэчлівымі з'яўляюцца звесткі крыніц аб падрыхтаванасці да бою маскоўскага войска. Адказ на гэтае пытанне з'яўляецца найважнейшым для разумення ходу і характару бітвы. Ці было маскоўскае войска падрыхтавана да бітвы, ці быў для яго напад войска ВКЛ нечаканым?

Крыніцы сведчаць, што бітва адбылася позна ўвечары. Літвіны напалі на маскоўскі лагер. Маскоўскія жаўнеры не мелі пры сабе зброі і не стаялі ў баявых шыхтах: *«Царовы ж ваяводы не толькі даспехі (не) паспелі на сябе ўскласці, але і ў палкі стаць не паспелі»*. *Летапіс абвінавачвае вайскоўцаў у нядобрасумленным выкананні абавязкаў: «…ішлі не па гаспадарскім загадзе, не старожка і не ў палках (не ў баявым страі), і даспехі свае і зброю везлі ў санях»*. Храніст Аляксандр Гваньіні сведчыць, што *«на Маскву ўдарылі, якая была неасцярожная і не змагла падрыхтавацца да абароны, а нашы, не даючы ім апомніцца, без адпачынку секлі любога, хто трапляўся пад руку»*.

Такім чынам, удар літвінаў аказаўся для маскоўцаў поўнай нечаканасцю; маскоўцы не здолелі апаматавацца і аказаць супраціўленне. Пераломным момантам сечы сталі ўцёкі з поля бою параненага камандзіра маскоўскага войска, выдатнага военачальніка Шуйскага. Яго забіў ці то шляхціч Каспар Швяйкоўскі, ці то нейкі полацкі селянін сякерай — крыніцы кажуць па-рознаму. Пасля гэтага пачалася ўсеагульная паніка. Жаўнеры ВКЛ гналіся за ворагамі цэлых пяць міляў. Шмат маскоўцаў патанула ў рэках і загінула ад рук сялян з найбліжэйшых вёсак.

У бітве загінуў альбо быў узяты ў палон амаль увесь камандны склад маскоўскага войска — 150 чалавек, у асноўным ваяводы, тысяцкія, сотнікі.

Звычайным «дзецям баярскім» удалося ўцячы, карыстаючыся цемрай. Аднак ў гэтым і заключаўся галоўны эфект — гібель галоўнакамандуючага зрабіла вялікае ўражанне на маскоўскага цара Івана Грознага. Атрыманы палон стаў важным аргументам у далейшых перамовах з Масквой.

Кіраўніцтва ВКЛ выкарыстала перамогу пад Улай у прапагандысцкіх мэтах напоўніцу. Акцэнтавалася ўвага перадусім на тым, што літвіны справіліся з маскоўцамі ўласнымі сіламі, без дапамогі палякаў. Каралеўскі двор у Польшчы, а ўслед за ім і шырокія грамадскія колы даведаліся пра бітву найперш са знакамітага «ліста Радзівіла». Радзівіл стварыў візію адкрытага, сумленнага бою, жадаючы дамагчыся максімальнага эфекту пры ўздзеянні на чытача. Радзівілаўскі ліст неўзабаве, намаганнямі Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі, быў надрукаваны ў Нямеччыне. Розгалас пра Ульскую бітву разнёсся па ўсёй Еўропе.

У гэты час у Варшаве на каронным сойме адбываліся перамовы аб заключэнні уніі паміж Каронай і Княствам. Адной з прычын распачынання ўнійных перамоў было пагаршэнне ваенна-стратэгічнага становішча ВКЛ у выніку страты Полацка. Разгром маскоўцаў пад Улай усё пераварочваў і даваў літвінам так патрэбную ініцыятыву ў вайне. Канцлер ВКЛ і віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Чорны згарнуў перамовы, спаслаўшыся на важныя справы ў ВКЛ. Заключэнне уніі было адцягнута.

Праз некалькі дзесяцігоддзяў аўтар «Хронікі Літоўскай і Жамойцкай», пішучы пра бітву пад Улай 1564 г., падсумаваў: ***«І з тых часоў сядзеў маскаль ціха…».***

***

**Інфлянцкая (Лівонская) вайна** (1558–1583), вайна паміж Маскоўскай дзяржавай, з аднаго боку, і Лівонскім ордэнам, Вялікім Княствам Літоўскім (потым Рэччу Паспалітай), Швецыяй за кантроль над Лівоніяй. Для Масковіі гэта была вайна за выхад да Балтыкі. Падчас вайны моцна пацярпелі ўсходнія беларускія землі. Маскоўскае войска ўзяло Полацк, які ўтрымлівала 16 гадоў. Аслабленае вайной, ВКЛ вымушана было падпісаць Люблінскую унію з Польшчай. Вайна скончылася Ям-Запольскім мірам, Полацк, Веліж і Лівонія вярнуліся ў склад ВКЛ.

***

**Гібель Шуйскага.** Польскі храніст Мацей Стрыйкоўскі ў паэме, прысвечанай бітве на Уле, апісаў гібель Пятра Шуйскага. Слаўны ваявода, аўтар перамог над казанскімі татарамі і над шведамі ў Лівоніі, ратуючыся, папрасіў селяніна адвезці яго жывым у Полацк. Аднак селянін, спакусіўшыся на залаты ланцуг, які Шуйскі меў на шыі, забіў ваяводу сякерай. Калі пра гэта стала вядома Радзівілу, піша Стрыйкоўскі, князь заплакаў ад сораму, загадаў годна пахаваць Шуйскага, а селяніну як марадзёру адсекчы галаву.



Войска ВКЛ другой паловы XVI ст. Графіка Юліуша Косака.

[1] Да 1840 года сённяшнія беларусы называліся літвінамі, Беларусь – Літвой. Тое, што сёння клічуць Літоўскай Рэспублікай тады было Жамойціяй (па-польску – Жмудзь).

**Уладзімір Скрабатун**

# «Глыбокае-Дзісна. Абслуга салідная»

Хто б мог падумаць, што такія дробязі як рэкламныя ўлёткі 1930-х гг усё яшчэ недзе захоўваюцца, напрыклад у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве. Ну, ладна, тэатральныя афішы, зразумела, – гісторыя канкрэтнага тэатра. А расклад руху аўтобусаў? Ці будзе каму цікава праз 75 гадоў, якія аўтобусы курсіравалі ў лютым 2014 года з глыбоцкай аўтастанцыі? Можа і зацікавіць каго, але ж куды, у якія крыніцы зазірнуць?

Між тым мы ведаем некалькі аўтобусных маршрутаў, якія існавалі ў траўні 1939 года, за 4 месяцы да прыходу сюды бальшавікоў.

З 4 траўня 1939 г адноўлены аўтобусны маршрут **Вільня-Кабыльнік** (цяпер – Нарач)-**Паставы-Дунілавічы-Глыбокае.** Аўтобус адпраўляўся з Глыбокага а $6^{30}$ раніцы, час прыбыцця ў Вільню – а $12^{45}$. Шэсць гадзінаў язды. Можна сказаць – даволі хутка! Гэта ж стары Альгердаў шлях, жвіроўка. Пры гэтым на маршруце – 6 прамежкавых прыпынкаў, акрамя згаданых вышэй, яшчэ ў Ласіцы, Лучаі, Міхалішках. Адпраўленне з Вільні на Глыбокае – а $15^{00}$.

З 5 чэрвеня1939 года быў урухомлены аўтобусны пасажырскі маршрут **Глыбокае-Пліса-Зябкі-Празарокі-Язна-Дзісна.** Адпраўленне з Глыбокага а $7^{40}$ раніцы, ад'езд з Дзісны – а $17^{00}$. *«Машына найноўшая, 20-асабовая, камфортная. Абслуга салідная»* – рэкламуе абвестка.

Ага! У 1939-м сеў у аўтобус – і ты ў Дзісне! А цяпер як? Трэба спачатку да Мёраў даехаць!

10 кастрычніка 1939 года была падпісаная савецка-летувіская дамова пра перадачу Летуве Вільні і Віленскага краю з мэтай заваявання лаяльнасці летувіскага ўраду ды размяшчэння на яе тэрыторыі савецкіх вайсковых базаў. Так, колішняя беларуская сталіца ўпершыню сталася для нас заграніцай.

У найноўшыя часы Глыбокае не змагло захаваць аўтобусны маршрут **Глыбокае-Вільня**. А шкада! Цягнік **Віцебск-Вільня**, які некалі рабіў прыпынак у Глыбокім, ужо не курсіруе, кажуць, што і рэйкі на летувіскім баку знялі. Як даехаць да Вільні цяпер?

Асабіста я, уночы, дабіраюся на цягніку **Віцебск-Лынтупы** да Паставаў, які прыбывае недзе а 5-й раніцы. А $7^{30}$ адпраўляецца аўтобус **Паставы-Вільня.** Прыбывае ў Вільню як калі – усё залежыць ад часу мінання двух памежных кантроляў – ад $11^{30}$ да $12^{00}$. А $14^{00}$ – зваротны шлях на Паставы. Квіток набываю наўпрост у аўтобусе за беларускія рублі, бо ў касе аўтавакзала прадаюць за літы, а г.зн. трэба мяняць валюту.

Аўтобус **Паставы-Вільня** – самы прыбытковы маршрут пастаўскага аўтапарку. Ён следуе ад Паставаў тым жа маршрутам, што некалі **Глыбокае-Вільня.** Прычым, з самых Паставаў можа выехаць усяго толькі 2-3 чалавекі. Асноўная загрузка пасажыраў – у Нарачы, Свіры, Міхалішках і Вароне. Праз беларуска-літоўскую мяжу праязджае паўнюткі. На зваротным шляху, наогул, левувісы выкарыстоўваюць **Вільня-Паставы** ў якасці прыгараднага аўтобуса: на адным прыпынку заходзяць, на іншым выходзяць.

Аднойчы, не без гонару, пастаўскі вадзіцель заўважыў аўтару гэтых радкоў: «**Паставы-Вільня** ведаюць ва ўсёй Еўропе! Аўтобус пачаў курсіраваць адразу пасля сканчэння вайны, штораз, нязменна, адпраўляецца з Паставаў і з Вільні ў адзін і той час. Нават, калі пераведзены стрэлкі на гадзіну ўперад ці гадзіну назад».



**UWAGA! UWAGA!**

Z dniem 4-go maja 1939 roku została wznowiona

Komunikacja Autobusowa na linii

**Wilno-Kobylnik-Postawy Duniłowicze - Głębokie**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Odjazd | $15^{00}$ | Wilno | $12^{45}$ | Przyjazd |
| | $17^{00}$ | Michaliszki | $10^{45}$ | |
| | $18^{00}$ | Kobylnik | $9^{45}$ | |
| | $18^{45}$ | Postawy | $9^{00}$ | |
| | $19^{35}$ | Łuczaj | $8^{25}$ | |
| | $19^{50}$ | Duniłowicze | $8^{10}$ | |
| | $20^{25}$ | Łasica | $7^{35}$ | |
| Przyjazd | $21^{30}$ | Głębokie | $6^{30}$ | Odjazd |

Drukarnia Br. Jalewcer, Wilno.





OGŁOSZENIE

Z dniem 5-go czerwca 1939 r. będzie uruchomiona

**KOMUNIKACJA AUTOBUSOWA PASAŻERSKA**

na linji

Głębokie — Plissa — Ziabki — Prozoroki — Jaźno — Dziśna

Wyjazdy z Głębokiego o g. 7.40 rano

„ „ Dziśny „ „ 17-tej.

Maszyna nowoczesna, 20-osobowa, komfortna.

OBSŁUGA SOLIDNA

Z poważaniem

**Kazimierz Wiśniewski**

Uwaga: Rozkład jazdy będzie ogłoszony na przystankach.

Druk. „REKORD" Wilno, Zawalna 46

